УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
С30

*Серыя заснаваная ў 2000 годзе*

У кнізе паэта, музыкі, радыёвядоўцы Віктара Сямашкі прадстаўлены цыкаль вершаў “ReRa”. Тэксты пісаліся пераважна ў другой палове 2008 г. падчас візытаў аўтара на Лагойшчыну. Рэра – гэта беларускае дыялектнае слоўца, якое абазначае неахайнага чалавека.

**ISBN 978-985-6906-44-5**

## Змест:

## ВЫШЫВАНКА

*нібыта вымытае неба*

*абрынулася ў нябыт*

*глеба п’е глыткамі неба,*

*расьпёртае парай вясёлак*

раса ўвечары
ранкам раса

плыве каса
наадрэз

курыцца туман,
загнаны ў кут,
споміж,
дзе поле й лес

вочы ночы
нічога
ня бачаць
тут

трапляе
ў лужыну
падарожны-
чмут

наўздагад
вінаград
вобмацкам
цягне вус

*пад ясенем сузіраю*

*ў траве зрухі ці лістоты ўздыхі*

*пад ясенем сузіраю, які зыркі заплюшчаны зрок*

*ці мысьленьня квятчасты турок*

## МЯШАНКА

**розум выдумляе боль**
вада трымае
рацыю мае
ласкавая пані Сьліжанка

**соль да асалоды гне**
вецер узьбівае
лісьце ў пену
хвалюе плынь
пані

галінай ткне
гарэшкам кіне,
а цела дранцьвее
стыне глінай
гніе мёдам
тую рану
ня змочыш ёдам

**з мазгоў вырастаюць розгі**

бацька-нябожчык
падказвае,
як лепей

мяшаць бэтон
замазваць цагліны
узгадваеш мора
лекавы водар
праз скуру,
скульптуры
з глыбінь,
мокры пясок
у кішэнях
  тут
  у каго — крылы,
  у каго — рылы,

але Сонца траскоча агульна
гоніць вадкасьць па венах
валуны падстаўляюць бокі,
мяняюць адлегласьць
адносна адзін аднаго
й зрываюцца з гарышчаў,
ушчыльняючы рэчышча,
у мілай пані Сьліжанкі
**чорны глей**

≠

## (ІМПРЭСІЯ КРАПІЎНІЦЫ) БРАЖКА

карова
ірве траву
раве ў рве
бы ровэр

хмары працягваюць горы да…
крамы прыцягваюць хворых на…

цень мацуе кусты
        матыль мацае пальцы,

чытае мне скуру
вохкім хабатком

*малюнак крылцаў*
*зьнізу*
*як апалены*
*бы нэгатыў,*
*а зьверху*
*яркая імпрэсія:*
*на памаранчавым тле*
*вугальна-сінія кроплі,*
*арнамэнт па контуры*

вечар – чары – чаркі…
вечкам нам
   сеціва зорнае
аблокаў белы баль –
капустай з бэльгіі
ці вяршкамі ў міксэры

МАТАРОЛЕР

## ГАЛЬКА

колы
строга
па схіле
дзесьці на донцы ночы
вада булькоча
плынь паўтарае
абрысы галькі

ліпкае сьвятло ў садзе дзеці скралі,
спужалі кукулю на могілках

дымы крыжуюцца
накшталт крыніцаў

сушаць хмар жыжку
запалёныя жылы…



у хатах ужо рыхтуюцца да сну
смочкі прадавачкі
пад паласатым джэмпэрам
скіроўваюць да выхаду

## БЕССАНЬ

час пераваліў за нуль
варта было набыць
некалькі сівых валасоў
толькі сківаца ўжо
трашчыць ад пазяханьня

* * * * *

колькі ў ночы дзён?
у адным дні – дзьве ночы

## у адным годзе – дзьве зімы

*гэта час паўтарэньняў,*
*копіяў прыкрых і непрыкрытых,*
*размножана дублявана*
*рыготна*
*шматкроць у прыцемку*
*ведаем, што яшчэ пачуем*
*ня раз, а мільён*
*тое самае,*
*што ўзгадваем*
*пасярод ночы*

*безь перапынку*
*папарна*
*й запар*

## КРЫНІЦА СЬВЯТОГА МІКАЛАЯ

на гары – царкоўка
пад гарой – струмень
**Сьвяты Мікалай,**
**маліся за нас**

размывае зямлю
разрывае трубы
са шчылін
ды адтулін

**Сьвяты Мікалай,**
**маліся за нас**

з-за паваротаў
пад нагамі
у вачах
на вуснах
**Сьвяты Мікалай,**
**маліся за нас**

*напорыстая сьвідравіна мудрасьці*
*разьліваецца са шчодрасьцю ды моцай*

*наўсьцяж невычарпальная*
*навекі нястрыманая*
*набраная словам*
*прачыстая,*
*вымый нас*
*напоўні нас*
*прымі нас*

## ГО

*намотваем колы*
*ўздоўж ракавіны*

…і вось болей па мне ніхто ня поўзае
скура набывае ранейшы колер
сьціскаюцца лёгкія
вачамі кіруюць спакусы –
 я йзноў у горадзе

ён расьце ўглыб,
гоніць статкі служачых,
апараты ледзь не сутыкаюцца
          яго
                    то кахаю,
                    то хаю

і кроў перашкаджае дыхаць
          стаў пот
          спатоляй
птушкі з палёту бачаць
          вантробіны гораду,

жанчыну,
прывабную толькі здалёк

*намотваем колы*
*ўздоўж ракавіны*
*пакуль не пачаўся*
*яблынь абвал*

≠

## MEDITATIO I

Як ёсьць мая сьвядомасьць,
што я ведаў –
        зьвярнулася ў клубок,
        як вожык на далоні
        й скацілася за пагоркі

мой апошні прытулак –
хатка зь белае гліны
        праём вакна
        праём дзьвярэй,

адзін дзень
роўны глыбокі
без падзей
без надзей
што трэба было – адбыло
дзень хуткі
ціхуткі

.............................................
ужо зусім нядоўга да выратаваньня
хіба што вытрымаў іспыт
кахаю цяпер мацней
≠

* * *

калі памру – ня трэба сьлёз,
бо сьмерць – жыцьця апатэоз

## ДО

з-за дажджу
дамы глыбей
удвая даўжэй

а на золку тле
пляскатыя й тонкія,
як дошка вагонкі

*    *    *    *    *

дождж вымалёўвае профілі дрэў
пульсуюць калюжыны
смачна выплёўвае сьпеў
прымач



*    *    *    *    *

узмакрэла цела
ноччу, відаць, прайшоў дождж
*дождж бяз гуку, паху ды колеру*
пакінуў толькі
адбіткі на тратуары

*    *    *    *    *

некалькі дзён у трансе:
хаджу, сяджу, гавару, а сам ня тут
час спакойны й непрыкметны,
як шум дажджу складаецца
з мноства нячутных удараў
кроплі аб ліст

## КІЧ

*закаханыя птахі*
*у Поўні пад пахай*
*квохкаюць*

## ПРЫМУС

веданьне закону
не абароніць ад пакараньня,
павольнага згасаньня,
якое не абавязкова скончыцца сьмерцю –
так і будзеш жыць тухлы-патухлы

**што прымусіла падумаць пра гэта:**

*у выпівохі выскоквае з рук*
*набытая на апошнія грошы бутэлька –*

*пляма на ганку крамы*
*зь вільгацьцю, шклом*
*ды пахам сьпірытусу*

## ЗЬМЕНЫ

як бервяно запыхалася
плюецца струменямі пілавіньня,
так і мне з колам у грудзёх
цяжка трымаць паставу

што ні дзея – то мімаволі
зьмена наваколься:
    закалыхваем камяні зь яру,
    заварваем гарбату ў малацэ

вычэсваем з космаў
застарэлыя думкі

у днішчы поля
назіраем космас



ды й бяз нас
сьвет сам
у няспынных зьменах

*...цячэ ручаіна гучна,*
*ды цішу нясе ў душы*

ǂ

*  *  *

*з пункту гледжаньня ў пункт бачаньня*
*ад наяўнасьці пытаньняў*
*да адсутнасьці аргумэнтаў*

помню, тата заўсёды маўчаў у адказ,
як Бог ≠

## АСІНЬНІК

вёска схавалася разам з ракой
у зморшчыне краявіду
дым ці туман стужкай
злучае поле й сад за дарогай

…пацяклі вокны
   сьлізгоча трава
   асьцярожныя крокі
   хавае асіньнік

Прайшло два тыдні.
празь белую завесу
жаўцее лес
жалуды й каштаны
адчуваюць падэшвы
залева бясконца гамоніць
поўнай шматлікасьцю галасоў
ураджай кропляў на галінах
з даху гірлянды слоў

*гліны глыбокія ўдыхі*
*паглынаюць той тэкст*

## MEDITATIO II

будуецца фундамэнт,
каркас,
дом
    запаўняюцца пакоі
    ад падлогі да столі
    драбязой ды раскошай
        і дом абрушваецца
        пад цяжарам,
        не пакідаючы нічога

няма чаканьня
няма моцы
няма розуму
няма ведаў
няма досьведу
няма ўменьняў
здольнасьцяў
схільнасьцяў
няма праўды
няма жаданьняў

не заўважаецца ноч і дзень
не адчуваюцца адносіны
толькі ледзьве чутнае рэха
ледзь бачны ў любым колеры
*белы –*
пачынаецца момант растварэньня

а як жа ж правіны?
бо грашыў і грашу?

і яны раствараюцца
і няма зьбянтэжанасьці, сораму за тое,

што, можа, не па заслугах, –

толькі асэнсаваньне:
так павінна быць
так трэба…

то ня сьлёзы суму,
то ня сьлёзы радасьці,
ня сьлёзы шчасьця
й ня сьлёзы каханьня –
*проста лёд*
*становіцца плыньню*

**СОН У НОС**

увечары хочацца піць,
а з раніцы аніякае смагі
*відаць, заместа вады сон*

засынаў з моцнай крыўдай,
а прачнуўся – боль мінуў
*замяніў памяць сон*

так паступова страчваю чалавечы фасон:
у чэрапе тушыцца патысон

расьце з хрыбетніка парасон…
**і ня трэба нічога піць!**

**DRIVE**

начное аўто
залівае шасэ
малаком

людзі-фасады ўздоўж
фасфарычныя дрэвы
пускаюць сок

у паветры вандруюць кроплі
дзед дзьме

ў дупу карпу

кіроўца трымае
зорную мапу
“ці доўга яшчэ?”

перасоўваемся толькі ў цемры
без апазнавальных знакаў і флікераў
то ўніз, то ў бок – студзім яйкі…

*чым долей ноч,*
*тым бліжэй дзень*

*шточасіна*
*сьвятлей*

*сохне трава*
*цяплее хлеб*
*дым у дом*
*смала ў камель*
*яблык на галіну*
*у глебу камень*
*ручай у гару*
*за чэрвенем –*
*травень*

## ДЗЕ ВЕЦЕР

вецер
недзе

чуваць
ледзьве

дзьме ў макаўку лесу
моршчыць крыніцы роўнядзь...

закалыхаліся яліны побач
у пакоры нахілілася трава

вецер ужо мые нам твар
разьдзімае лёгкія

яго подых
яго дотык

скрозь
скроні

## ХОПІЦЬ ГУДЗЕЦЬ

расьліна падбірае колер,
каб першай выбіцца з фону
зялёнага покуль
   **Ляй-лю-лёй**



татальны татка
сына сьніць,
нашчадка
   **Ляй-лю-лёй**

у маткі ў пузе
гудзець хопіць –
хочацца зьліцца хутчэй
з Сусьветным суцішшам
**У-у-у-у-у-у…**

проста зразумець,
ды адпавядаць цяжэй
напярэдадні працяглага Ж
без адказаў і пытаньняў
**У-у-у-у-у-у…**

*хлопчык з чорнымі вочкамі*
*ходзіць па двары*
*з акрайчыкам чорнага хлеба ў кішэні –*
*гэта ў левай,*
*а ў правай – семкі сланечніку,*
*то закапае ў зямлю капейку,*
*то камень кіне,*
*то вяровачку водзіць,*
*дзьме ў камель таполі –*
*сыплюцца моталі*
*круглы выдатнік той хлопчык*

*   *   *

лінія небасхілу за соснамі –
празрыстая восень

з птушкай у носе
пералічваю зерне
                    зорак
                    зерне…

*восень*
            *дорыць*

**ГЛУЗДЫ**

атмасфэра
сьціснулася ў тэлефонны звон,
потым надзьмулася зноў,
пусьціўшы кроў
у шпік, млеч ды мозаг

*жабры мысьленьня,*
*ветракі*
*гарэхава-грыбное мысьленьне*
*вільготная губка*

*з мыльнай сьлінай*
*васьміногае*
*трохвокае*

*хрыбет з кальмаравых валокнаў,*
*корпус з рэбраў*
*надзейны,*
*дуда ў грудзёх зашытая,*
*сьцёгны на шырыні плячэй,*
*мякаць*
*зубы скрыпяць і крышацца…*

НЕ!
лепей займацца верай,
маліцца моўчкі
й бязглузда
**малітва – ня значыць “кажы”**
**малітва – гэта, каб слухаць**

**МА-ПА**

праводзіць пальцамі
па полю –
пакідае яр

пускае ваду з роту
саджае ялінаў роту
гаспадар

на дрэве па птушцы
пішчаць і гушкаюцца

зьнесена *кока*
сьпечаны *папа* –
аб тым сьведчыць мапа

**шчэ**

моцны камель
варонка ў кароне
сьсе

лодка мінае мель
лодку да берага
ймкне

“толькі ня момант
шчэ”

Поўня шалік
тчэ

кілішак вады перад сном
трэ

кілішак вады
ці ё?

- не,

бо корка пакрыла раку

цяпер у ракі
счэзьлі бакі

## НА ПРЫПЫНКУ

галаве так зручна абапірацца на паветра,
а тулаву стаяць,
прапускаючы тралейбусы –
3-ка, 16-ты, 30-ты…
хай сабе
а ці памятаеш свой нумар у пашпарце?
лікі мабільнікаў? код рахунку?
курс?дом? кватэру?
рост? узрост?
ціск?

ляжыш па-над…
бы завіс
        пры restart
спрабуеш чытаць дваічнасьць:

        *мала напісаць слоўца*
        *трэба паўтарыць яго колькі разоў запар,*
        *пакуль яно ня здолее прывабіць увагу*
        *й канчаткова ня страціць сэнс*

*танец на хвалях у ратацыі*
*адзін і той жа*

*інфы лімфа*
*ліецца з глыткі ў глытку*
*з вантробаў у вантробы*
*ды ня можа насыціць*

*у той час, калі сьмяротны боль выклікае праўда*
*калі сьцерпіш –*
*адчуеш,*
*як файна*
*галавой абапірацца на паветра,*
*якое гэта шчасьце*
*не хацець нічога,*

*без аніякіх слабасьцяў*

*а потым, можа,*
*здолееш рыўкамі,*
*жабкай*
*распростваючы лапкамі*
*повязі, вузлы, шаты,*
*вынырнуць у Рай*

3-ка, 16-ты, 30-ты…
хай сабе
хай сабе

## ФАРШАСКЛАД

гукі ў нотах
гукі ў літарах
гукі ў ліках
гукі ў лічбах

ноты ў літрах
ноты ў тонах
нотаў пюпітры
ў мэраў і мэтраў

лікі палічым
пралікі й страты
клікі мышыныя
поклічы кількі

лічбы – у лыч бы
лічбы – ды вам бы
лічбы бы німбы
лічбы ў палічцы

літары – лідэры
лідэры – підары

клітары аўтараў
літарасратары

лірыкі-клеркі
крытыкі фаршу
клірыкі фальшу
ваш фарс-фініш!

## БЕЛЫ

калі пачынаў –
меў перад сабою
безьмежны
белы аркуш

стаў выпісваць на ім
арабескі, узоры
заўсёды новыя
адзін за другі лепей

размаляваў болей, чым мог
цяпер не хачу паўтарацца
цяпер нават разумею, як хачу,
ды не магу…

а аркуш
як і раней
бязьмежны

*і белы* ‡

## MEDITATIO III (MIŁOŚĆ)

Бога болей
мяне меней
толькі мілосьць
міласьцю бачу

боль менее
воля более
толькі мілосьць
міласьцю бачу

па меры веры
па веры памеры
толькі мілосьць
міласьцю бачу

ня маю волі
ня маю болю
толькі мілосьць
міласьцю бачу

меней думаю
меней пакутую

толькі мілосьць
міласьцю бачу

не мяркую

ня плачу

